ТЕЛЕПРАГРАМА НА НЕДЕЛЮ

№ 10 (1573)

Субота, 18 студзеня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.

# Народная Воля

**Надвор'е**

Сёння ўдзень захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, па паўночным захадзе невялікія ападкі, месцамі галалёдзіца. Вецер паўднёва-заходні, 6—11, парывы да 14 м/с. Тэмпература паветра ў Віцебску, Мінску, Магілёве — +2...+4, Гомелі — +3...+5, Гродне, Брэсце — +4...+6. У наступныя двое сутак воблачнае з праясненнямі надвор'е, у паўночных раёнах невялікія ападкі, месцамі слабы туман. Вецер паўднёва-ўсходні, 5—10 м/с. Тэмпература паветра ўначы - 3...+2, удзень — +1...+6.



# Открытое письмо

*Президенту Российской Федерации
ПУТИНУ Владимиру Владимировичу*

Уважаемый господин Президент!

Более трех лет назад в Минске был похищен мой муж Виктор Гончар, один из ведущих лидеров демократической оппозиции в Республике Беларусь, бывший вице-премьер белорусского правительства, Генеральный секретарь экономического суда СНГ, председатель Центральной избирательной комиссии Беларуси. Я уже неоднократно обращалась к Вам с просьбой о помощи, так как белорусские власти все эти годы бездействуют, а правоохранительные органы демонстрируют свою беспомощность и нежелание вести настоящее расследование.

Исчезновение моего мужа — это не единичный случай. Точно так же в Минске пропали бывший министр внутренних дел Юрий Захаренко, корреспондент ОРТ Дмитрий Завадский, предприниматель Анатолий Красовский. Об их судьбе, так же как и о судьбе моего мужа, ничего не известно. На проблему похищения политических противников Александра Лукашенко неоднократно обращали внимание авторитетные международные организации — Совет Европы, Европейский парламент, ОБСЕ. В прошлом году мы, жены похищенных, были в Государственной Думе Российской Федерации, где встречались с лидерами ряда фракций — СПС, "Яблоко", "Единство", ОВР. Мы передали им наше обращение с просьбой о помощи. Насколько мне известно, эту проблему они поднимали перед Вами.

Вы часто говорите об исторической близости наших народов, дружбе между нашими странами, о необходимости интеграции. Вы предлагаете провести эту интеграцию по модели Евросоюза, но хочу напомнить Вам, что одним из базовых принципов Евросоюза является уважение прав человека. Если этот принцип не будет заложен в основу отношений между нашими государствами, то все Ваши интеграционные планы будут "замками на песке". Нельзя построить прочные отношения между нашими народами на умалчивании преступлений, лжи и крови.

Вы, как Президент Российской Федерации, обладаете огромными возможностями и можете нам помочь. Я искренне надеюсь, что Вы не останетесь равнодушным к нашему горю и на встрече с А.Лукашенко поднимете вопрос о судьбе похищенных белорусских политиков.

С уважением,

**Зинаида ГОНЧАР.**

*17 января 2003 г.*

**ПУЛЬС**

## АГП заклікае Уладзіміра Пуціна абараніць свабоду слова ў Беларусі

Аб'яднаная грамадзянская партыя (АГП) перадала ў Пасольства Расійскай Федэрацыі ў Беларусі два звароты да прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна, які прыбудзе ў Мінск 19 студзеня.

АГП заклікае прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна падчас яго знаходжання ў Мінску і сустрэч з афіцыйнымі асобамі Беларусі "выказаць занепакоенасць" станам свабоды слова ў краіне і "асудзіць праслед беларускіх і замежных журналістаў" у Беларусі за іх прафесійную дзейнасць, а таксама вынясенне абвінаваўчых прыгавораў у адносінах да журналістаў Мікалая Маркевіча, Паўла Мажэйкі, Віктара Івашкевіча.

У.Пуціна таксама заклікаюць "прыняць меры па недапушчэнні скарачэння прысутнасці на інфармацыйнай прасторы Беларусі расійскіх мас-медыя як крыніц альтэрнатыўнай інфармацыі".

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Змагаюцца за «Залаты сайт»

Член Саюза дызайнераў Беларусі, арт-дырэктар беларускай кампаніі веб-дызайна і інтэрнэт-рашэнняў "Red Graphic Systems" Сяргей Осіпаў абраны старшынёй журы Усерасійскага адкрытага інтэрнэт-конкурсу "Залаты сайт — 2002".

Агульная колькасць заявак на ўдзел у ім перавысіла 800, значная частка якіх — з Беларусі. Аргкамітэт "Залатога сайта" прыняў рашэнне працягнуць прыём заявак да 30 студзеня 2003 года.

**Аляксей АРЭШКА.**

## З «Элеганта» — у турму на чатыры гады

Да чатырох гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці асуджана былы дырэктар швейнага прадпрыемства ААТ "Элегант" Надзея Нікіціна.

Такі прысуд суддзя Цэнтральнага раёна Гомеля Надзея Карастылёва вынесла былому дырэктару за раскраданне маёмасці прадпрыемства. Падчас судовых пасяджэнняў вызначаная следчымі сума скрадзеных будаўнічых матэрыялаў, мэблі і тканіны зменшылася з 9 да 3 мільёнаў рублёў. Тым не менш на прысуд гэта істотна не паўплывала.

## Нованароджаны каштаваў 1 тысячу долараў

Акушэр-гінеколаг Ельскага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання прымаў роды ў дачкі начальніка перапрацоўчага комплексу. Нованароджаны памёр, і бацька парадзіхі пачаў пагражаць акушэру фізічнай распраўвай, а ў якасці адступнога запатрабаваў 2 тысячы долараў.

Медык сабраў толькі тысячу. Падчас перадачы грошай супрацоўнікі Ельскага аддзела ўнутраных спраў затрымалі вымагальніка.

**Людміла ВАЛЕЎСКАЯ.**

## Баскетбалісты рыхтуюцца да паўфінальнага раунда чэмпіянату Еўропы

Матчы адбудуцца 22 і 25 студзеня ў гасцях з камандамі Венгрыі і Польшчы. Для ўдзелу ў іх галоўным трэнерам Аляксандрам Барысавым запрошаны абаронцы Андрэй Крыванос, Дзмітрый Кузьмін, Арсеній Кучынскі, Аляксей Пынцікаў і Уладзімір Шарко, форварды Уладзімір Верамеенка, Дзяніс Коршук і Ягор Мешчаракоў, цэнтравыя Мікалай Аляксееў, Алег Кажанец і Аляксандр Куль.

**Вячаслаў ДУТАЎ, БелТА.**

## Канфіскавалі 1064 бутэлькі «левай» гарэлкі

Супрацоўнікамі АБЭЗ Фрунзенскага РУУС пры праверцы аднаго з магазінаў па вуліцы Альшэўскага ў Мінску быў выяўлены факт рэалізацыі спіртных напояў без прыходных дакументаў і сертыфікату.

Партыя спіртных напояў у колькасці 1064 бутэлькі на суму 3 мільёны 351 тысяча 600 рублёў была канфіскавана.

## Набралі здаровых салдат

17 студзеня завяршылася адпраўка ва Узброеныя сілы і іншыя вайсковыя фарміраванні Беларусі маладога папаўнення, прызванага на тэрміновую службу восенню 2002 — зімой 2003 года.

На працягу 9 дзён на ўкамплектаванне войскаў ваеннымі камісарыятамі накіраваныя каля 14 тысяч чалавек, у тым ліку ў армію — каля 10 тысяч. 2 лютага навабранцы прымуць прысягу, а 3 лютага ва Узброеных сілах краіны пачнецца новы навучальны год.

Спецыялісты канстатуюць паляпшэнне якасных характарыстык прызыўнікоў апошняй кампаніі ў параўнанні з папярэднімі. Гэта тычыцца маральна-псіхалагічнага стану маладых людзей, іх здароўя, узроўню адукацыі, стаўлення да службы.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Окажется ли Кубок чемпионов в Борисове?

Белорусский чемпион — борисовский БАТЭ — принимает участие в розыгрыше "Кубка чемпионов Содружества" по футболу. Вчера вечером наша команда отправилась в Москву, где сегодня и стартует этот традиционный турнир.

Три года назад борисовчане уже играли в подобных соревнованиях и дошли до полуфинальной "пульки". В нынешнем турнире на предварительном этапе их соперниками будут чемпионы Латвии, Армении и Таджикистана. "Темной лошадкой", сказал главный тренер БАТЭ Юрий Пунтус, для него является таджикская команда, поскольку ему о ней ничего не известно. Армяне, как всегда, продемонстрируют комбинационный и техничный футбол. А вот латышская "Сконто" может преподнести любой сюрприз. Кстати, именно ей в своем дебютном кубковом выступлении три года назад белорусский чемпион уступил со счетом — 1:3.

По итогам прошлого розыгрыша изменения в таблице произошли лишь в квартете команд, "подпиравших" тройку лидеров. И во многом это случилось из-за крайне неудачного выступления бобруйской "Белшины", набравшей всего одно очко и занявшей последнее место в своей группе. Бобруйчане отбросили Беларусь с четвертой позиции на седьмую.

**Вячеслав ДУТОВ.**

## Культурный Пинск

В Пинске предполагается открыть филиал кафедры хореографии Белорусского государственного университета культуры. Об этом сообщил министр культуры Леонид Гуляко на расширенном заседании коллегии Министерства культуры.

В минувшем году в целях улучшения кадровой ситуации в регионах приняли первых студентов филиалы Белорусской академии музыки в Бресте и Гродно. В скором времени поступить в этот вуз можно будет также в Гомеле и Витебске.

**Ольга ЩЕДРИНА, БелТА.**

**ФАКТ І КАМЕНТАРЫЙ**

## Прадпрымальнікаў — у ціскі?

*Днямі А.Лукашэнка правёў нараду па праекце новага дэкрэту "Аб адзіным падатку". Хутка гэты дэкрэт будзе падпісаны. Нагадаем, што зараз прадпрымальніцкая актыўнасць рэгулюецца дэкрэтам №12, прынятым яшчэ ў маі 2001 года. Прэзідэнцкая прэс-служба выбухнула фанфарамі: новы дакумент "будзе садзейнічаць развіццю індывідуальнага прадпрымальніцтва ў краіне, а таксама дасць магчымасць прадухіліць адыход ад падаткаабкладання і павысіць празрыстасць дзейнасці індывідуальных прадпрымальнікаў".*

А што думаюць самі прадпрымальнікі пра чакаемыя змены? Аказалася, што, на іх думку, перспектывы не такія ружовыя. Бізнесмены лічаць, што існуючы дэкрэт "дазваляе некаторую лібералізацыю і задавальняе амаль усіх", а новы — "проста паставіць гандляроў на калені".

На думку Анатоля Шумчанкі, каардынатара аргкамітэта па стварэнні ГРА "Перспектыва", змены, якія прадугледжаны ў новым рэгулюючым прадпрымальніцкую актыўнасць дакуменце могуць мець "неабарачальныя негатыўныя наступствы". Напрыклад, плануецца даць большыя правы Міністэрству гандлю, многіх прадпрымальнікаў прымусяць гандляваць толькі ў прыватных крамах, будоўлю якіх за 10—20 тысяч долараў большасць дазволіць сабе не ў стане, павялічацца штрафныя санкцыі і г.д. З пункту гледжання Шумчанкі, "ва ўмовах штогадовага паніжэння пакупніцкай здольнасці насельніцтва падобны прэс з боку дзяржавы будзе для гандляроў невыносным".

Больш таго, прадпрымальнікам, згодна з новым дэкрэтам, будзе нявыгадна наймаць людзей з боку, што яшчэ больш пагоршыць сітуацыю на рынку працы.

Сп. Шумчанка прагназуе новую эскалацыю канфлікту паміж прадпрымальнікамі і ўладай: *"Калі гэты дэкрэт будзе прыняты, то мы не будзем абмяжоўвацца толькі эканамічнымі патрабаваннямі, а вылучым і палітычныя. Калі кіраўнік дзяржавы адабрае закон, які фактычна прывядзе да знішчэння малога бізнесу, то можна гаварыць пра тое, што гэтай дзяржаве малы бізнес наогул не патрэбны".*

На 20 студзеня запланаваны збор прадпрымальнікаў, якія прымалі ўдзел у забастоўках у верасні—кастрычніку мінулага года. На сустрэчы павінна быць прынята стратэгія і тактыка далейшых дзеянняў, якія будуць яшчэ "больш буйныя, чым мінулагоднія". Не выключаецца, што будуць спынены не толькі выплата падаткаў дзяржаве, але і арэндныя плацяжы.

Узнікае пытанне: навошта вырашылі адмяніць даволі ліберальны дэкрэт 2001 года? Каб узяць малы бізнес у ціскі? Ёсць меркаванне, што дэкрэт №12 быў прыняты напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў і меў на мэце зацікавіць прадпрымальнікаў галасаваць вядома за каго. Зараз, праз паўтара года пасля выбараў, атрымліваецца, што бізнесмены і іх патрэбы ўжо нікога не цікавяць.

**Алесь СІЛІЧ.**

**ДЗЯКУЙ!**

## Анатоль Трухановіч завітаў у родную школу...

Незвычайны Дзед Мароз завітаў перад святам у Запроскую школу, што ў Лунінецкім раёне. Ён прывёз для вучняў цудоўныя наборы цукерак, не забыў пра падарункі і для настаўнікаў школы (хоць яны і не прывыклі да такіх знакаў увагі).

Але самай вялікай радасцю для калектыву школы аказаўся суперкамп'ютэр. Калі шчыра сказаць, то мы і не чакалі атрымаць такі падарунак.

Акрамя гэтага, на рахунак школы было пералічана 200 тысяч рублёў.

Ці ж не казка? Не, гэта быль. У нашу школу прыехаў Анатоль Іванавіч Трухановіч. Гэта яго родная вёска, яго школа. Тут працаваў дырэктарам у далёкім 1948 годзе яго бацька, зараз працуе ў школе яго сястра.

Анатоль Іванавіч жыве ў Мінску, ён вядомы прадпрымальнік. Нягледзячы на неадкладныя справы, знайшоў час, каб прыехаць і парадаваць сваіх землякоў.

Нізкі паклон Вам, Анатоль Іванавіч, няхай над Вамі заўсёды ззяе шчаслівая зорка і саграває Ваша шчырае сэрца!

**Р.Р.КАСЦЮКЕВІЧ,**
**завуч Запроскай школы Лунінецкага раёна.**

## Калі «дамушнікам» вальготна

У Оршы за мінулы год з 1600 зарэгістраваных злачынстваў амаль 400 аднесены да крадзяжоў з прыватных дамоў і гарадскіх кватэр.

Трэцяя частка гэтых здарэнняў адбылася па віне саміх гаспадароў жылля, якія або пакідаюць дзверы незачыненымі, або самі пускаюць у дом злачынцаў, не цікавячыся, хто яны.

І ўсё ж часцей злодзеі трапляюць у чужое жытло, ламаючы дзверы, падбіраючы ключы або выстаўляючы шыбы і г.д.

Значна цяжэй стала "дамушнікам" у Віцебску, дзе ў многіх шматкватэрных дамах на дзвярах пад'ездаў з'явіліся кодавыя замкі, некаторыя жыльцы не шкадуюць грошай на ахоўную сігналізацыю, а ў 16-павярховым "небачосе" па праспекце Белабародава жыльцы, пайшоўшы на невялікія выдаткі, арганізавалі пастаянную вахту ў пад'ездзе, як гэта здаўна прынята на Захадзе.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## У 2002 годзе ў пажарах загінулі 1272 чалавекі

Пажарнікі выратавалі і эвакуіравалі больш за 8500 чалавек, прадухілілі знішчэнне агнём 13.700 пабудоў, ліквідавалі звыш 36 тыс. пажараў, 944 аварыі і надзвычайныя сітуацыі.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

# Они ели змей, яд которых в тридцать раз сильнее яда кобры...

*Недавно в эфире ОНТ прошел проект "Последний герой-2". Впервые в подобной игре принимала участие представительница Беларуси — 26-летняя Ксения Волкова. Телезрители, наблюдавшие за перипетиями жизни робинзонов на острове, видели, что наша соотечественница выступила достойно, покинув остров одной из последних.*

*О том, как создавался проект, и о том, что осталось за кадром, читателям "Народной воли" согласился рассказать любимый человек Ксении Влад, также побывавший в Малайзии и принявший участие в съемках вместе с еще несколькими родственниками участников.*



— В районе, где снимался "Последний герой-2", работали сразу несколько съемочных групп из разных стран, — рассказывает Владислав. — Они снимали свои версии этой передачи со своими участниками. У всех телевизионщиков частично была общая материально-техническая база и даже конкурсы снимались на одних и тех же декорациях. Другое дело, что россияне, считая, что для "наших" западные правила слишком мягки, постоянно пытались усложнить жизнь своим участникам, из-за чего у них даже возникали проблемы с представителями Шведского телевидения, которым принадлежит идея создания этой игры.

Так, например, в конкурсе, где участники должны были выбираться из лабиринта, у представителей всех других стран условия были предельно просты — найти в лабиринте два колышка и выйти оттуда. Организаторы российского проекта усложнили конкурс, заставив, помимо колышков, искать еще три ключа, последовательно открывавших три замка. При этом лучшее время среди иностранцев было у шведов — примерно полчаса. Наши же выполнили усложненное задание всего за девять минут, чем вызвали у всех неподдельное удивление.

Или еще. По "западным" правилам при первой высадке на острова участников должны были выбросить с корабля в воду в 200 метрах от берега, предоставив возможность доплывать самостоятельно, а наши выбросили своих за 2 километра и в начинающийся шторм.

Признаюсь честно, что, когда я сам смотрел первую часть "Последнего героя", думал, что организаторы помогают участникам хотя бы едой. Оказавшись в Малайзии, увидел, что это абсолютно не так. Операторы, которые постоянно находились в эпицентре событий, происходящих на острове, не имели права не то что "подкармливать" участников, а даже разговаривать с ними или есть в их присутствии. Если кто-нибудь из технического персонала нарушил бы эти правила, то тут же был бы крупно оштрафован. А самим представителям племен добыть себе поесть удавалось далеко не всегда. В дни проведения конкурсов с утра за участниками приплывал катер, и их забирали на съемки, которые нередко занимали весь световой день. И если "островитяне" не сумели позаботиться о поиске еды заранее, то им приходилось голодать, потому что ночью найти еду на острове было проблематично, и следствием этого были голодные обмороки на следующий день. От голода "герои" ели все, что попадалось на глаза. Однажды они нашли какие-то орехи и, естественно, съели их. Как оказалось потом, эти плоды вызывают рвоту, и для спасения пришлось вызывать врача с соседнего острова.

Были и другие случаи. Поймав трех змей, участники сняли с них шкуру, сварили и съели, а когда на остров приплыл представитель МЧС и увидел шкуры убитых змей, то он схватился за голову. Оказалось, что яд этих змей в тридцать раз сильнее яда кобры. И если бы они укусили кого-то, то врач даже не успел бы помочь пострадавшему...

Нельзя сказать, что претенденты на звание "Последнего героя" были брошены на произвол судьбы. Так или иначе они находились под постоянным присмотром организаторов, вплоть до того, что иногда находили в обильной растительности спрятанные микрофоны или скрытые камеры. Но хотя организаторы и старались максимально обеспечить безопасность, случалось и так, что участники были полностью предоставлены сами себе, например, когда добирались до острова, где должно было жить объединенное племя. Сначала их "вел" катер, с борта которого велась съемка происходящего, затем по рации катер получил команду "вернуться на базу", потому что ему на смену должен был прилететь вертолет и снять верхние планы переправы. Но вертолет по техническим причинам задержался, и люди остались на несколько часов посреди Южно-Китайского моря на полузатонувшем плоту без понятия, куда плыть и что делать дальше, плюс ситуация усугубилась начавшимся штормом. Повезло, что все обошлось, а в телеверсии мы увидели всего лишь несколько красивых минут из целого дня этого опасного испытания.

Что касается психологического состояния, то мне показалось, что организаторы для большего проявления эмоций умышленно нагнетали обстановку в племенах, подводя участников к нервному срыву. Что поделаешь, законы жанра требуют ярких спонтанных проявлений личности и реальных страданий. Срывы случались, но не все из них потом попали в эфир, может быть, из-за того, что после "Последнего героя-1" в прессе было много написано о жестокости проекта. "Последний герой-2" в этом смысле тоже не был исключением, и даже при сложившейся доброй атмосфере к концу игры, кроме физических трудностей, являлся в первую очередь тяжелым испытанием для психики.

Посмотрев своими глазами на то, что пришлось преодолевать участникам, я очень гордился, что моя любимая смогла достойно пройти все эти мучения, ни разу не позволив себе опустить руки или пожаловаться на трудности, и за силу своего характера даже получила от соплеменников прозвище "цветочек на стальном стебельке". Хрупкая с виду Ксюша смогла остаться самой собой, выдержав там, где ломались крепкие мужики, и я очень рад тому, что нашу Беларусь в самом масштабном международном проекте представляла именно она. А еще я надеюсь, что знания и навыки, полученные Ксенией в "Последнем герое", помогут в реализации следующего экстремального проекта Африканской трансконтинентальной экспедиции, более подробно о котором можно узнать в Интернете по адресу www.africa-expedition.com

**Виталий ГАРБУЗОВ.**

ГРОМКИЕ ДЕЛА

*"Народная воля" продолжает следить за расследованием уголовных дел, связанных с исчезновением Ю.Захаренко, В.Гончара, А.Красовского и Д.Завадского.*

*Не так давно журналист "Народной воли" взяла интервью у Владимира Чумаченко — следователя, который занимается делами Захаренко, Гончара и Красовского. На откровенную беседу Владимир Михайлович согласился, однако, прочитав текст интервью, от публикации отказался. Сказал, что пока не время, что надо подождать, что ему, как и всем, дорога собственная жизнь...*

*По информации, полученной редакцией из компетентных источников, в конце этого месяца расследование "громких дел", возможно, будет приостановлено. Якобы исчерпаны все возможности следствия, фактов нет и результатов нет.*

*Однако вряд ли с этим согласится белорусская общественность. Факты есть...*

*Об этом свидетельствует, например, и видеозапись разговора Ирины Красовской и адвоката Гарри Погоняйло с Олегом Алкаевым.*

*Недавно Ирина Красовская (жена одного из пропавших) и известный адвокат Гарри Погоняйло встретились в Германии с бывшим начальником СИЗО №1 Алкаевым, у них состоялся более чем шестичасовой разговор, который был зафиксирован на видеопленку. И эта запись приоткрывает немало любопытных подробностей исчезновений известных людей.*

*Печатая сегодняшние материалы, газета не выносит приговор людям, чьи имена в них упоминаются. Если они считают, что Олег Алкаев в чем-то врет или Гарри Погоняйло не совсем объективен, то "Народная воля" готова предоставить всем заинтересованным свои страницы и отразить их точку зрения.*

## *Гарри ПОГОНЯЙЛО:*

# «Допрос Павличенко снимался на видео...»

*Пистолет, которым приводили в исполнение смертные приговоры и из которого, по некоторым версиям, были застрелены Захаренко, Гончар и Красовский, уничтожен.*

*Так считает заместитель председателя Белорусского Хельсинкского комитета адвокат Гарри Погоняйло.*

**— Гарри Петрович, знаю, что в конце прошлого года Вы с Ириной Красовской встречались в Германии с Олегом Алкаевым. Он рассказал что-то новое о "громких исчезновениях" или просто повторил то, что уже звучало в прессе?**

— Известно, что в 2000 году Алкаев написал рапорт на имя министра внутренних дел Владимира Наумова, в котором рассказал, кому выдавался так называемый "расстрельный" пистолет, а также при каких обстоятельствах он познакомился с командиром СОБРа Дмитрием Павличенко. Нас интересовало, что побудило Алкаева написать данный рапорт.

Наша беседа состоялась в гостиничном номере. С разрешения Алкаева весь разговор, длившийся более шести часов, записывался на видеопленку.

Олег Алкаев был начальником спецгруппы, приводившей в исполнение смертные приговоры. Он говорит, что на одной из казней по просьбе тогдашнего министра внутренних дел Юрия Сивакова присутствовал Павличенко. Хотя существует инструкция, согласно которой на данной процедуре может присутствовать весьма ограниченный круг специалистов. По словам Алкаева, Сиваков распорядился допустить Павличенко, так как хотел, чтобы в будущем расстрелами занималась группа под руководством командира СОБРа.

Алкаев говорит, что Сиваков, как тогдашний министр внутренних дел, планировал создать небольшую тюрьму закрытого типа. Примерно человек на двадцать. По его словам, тюрьма должна была располагаться на территории базы МВД в Дзержинске. И что Сиваков просил его подобрать туда обслуживающий персонал. Правда, фамилию предполагаемого начальника тюрьмы Алкаев назвать отказался. Сказал, еще не время...

Бывший начальник СИЗО полагает, что Захаренко, Гончара и Красовского застрелили из специального пистолета с глушителем, которым исполняли смертные приговоры. Разрабатывалось "чистое убийство", которое ни при каких обстоятельствах не могло быть раскрыто. Поэтому организаторы акции и использовали "расстрельный" пистолет. Алкаев говорит: мол, Сиваков, как человек военный, вероятно, думал, что данный пистолет нельзя идентифицировать, потому как он не числится в картотеке отстрелянного оружия.

**— Вы не пытались проверить этот факт, заглянув непосредственно в картотеку?**

— Это совершенно секретные данные. Но у меня есть информация, что пистолет уже уничтожили.

**— Кто?**

— Те, кто не заинтересован в расследовании громких дел. Те, кто прекрасно понимает, что этот пистолет — важнейшая улика. Ведь несложно выяснить, из какого оружия стреляли. Надо только найти тело убитого, извлечь пулю и провести соответствующее исследование. Прямее улики быть не может.

**— На Ваш взгляд, следователь Чумаченко, который занимается расследованием исчезновений, мог изъять пистолет как предполагаемую улику или хотя бы запросить данные на него из картотеки?**

— Мне кажется, это нужно было сделать. Другой вопрос, что сегодня в картотеке подобных данных уже может и не быть...

Что касается следователя, то сегодня Чумаченко в гордом одиночестве занимается делами Захаренко, Гончара и Красовского. Нет ни оперативного сопровождения, ни других следователей, которые могли бы выполнять отдельные следственные действия. Я полагаю, что это сделано исключительно для того, чтобы пресечь всякую возможность утечки информации. А если вдруг что-либо уйдет за стены кабинета следователя, то генеральный прокурор всегда будет знать имя виновника утечки.

**— Думаете, Чумаченко слишком много знает?**

— Да он практически ничего не знает! Вот если бы у Чумаченко были те материалы, которыми первоначально располагал, например, руководитель следственно-оперативной группы прокуратуры Республики Беларусь Иван Иванович Бранчель...

Кстати, заместитель начальника отдела прокуратуры старший советник юстиции Казаков совершенно официально, при понятых, изъял у Алкаева пистолет и книгу выдачи и приема оружия (есть соответствующий протокол выемки). Эти вещественные доказательства должны быть приобщены к материалам уголовного дела. Но Бранчель, узнав, что Шеймана назначают генеральным прокурором, все вернул Алкаеву со словами: "Мы тебя не видели, ничего не знаем...". Более того, Иван Иванович, видимо, по своей рассеянности оставил на столе у Алкаева протокол выемки...



Думаете, Бранчель не понимает, что такое уничтожение важнейших улик по делу? Прекрасно понимает. Может быть, он дал какие-то вразумительные объяснения по этому поводу? Или, может быть, его привлекли к дисциплинарной ответственности за то, что произошла утечка информации?

Показания Алкаева — одно из доказательств по делу исчезновения Захаренко, Красовского и Гончара. И мы намерены представить их следствию.

**— Показания Алкаева или еще кого-нибудь при этой власти все равно ничего не изменят в расследовании громких дел...**

— Как только изменится политическая ситуация в стране, расследование быстренько завершится. Слишком много людей знакомо с подробностями исчезновений известных политических и общественных деятелей. И многие из тех, кто причастен к этим преступлениям, наперегонки побегут к следователю в желании переложить вину на другого.

Бывшие председатель КГБ Мацкевич и генпрокурор Божелко несколько раз докладывали главе государства о причастности некоторых высокопоставленных чиновников к исчезновению Захаренко, Гончара и Красовского. Лукашенко повел себя довольно странно, приблизив к себе того, кого мы считаем одним из главных подозреваемых...

Более того, накануне президентских выборов Лукашенко громогласно заявил, что готов ознакомить некоторых журналистов с протоколами допроса Павличенко, якобы незаконно задержанного. Ознакомил?

**— Нет.**

— Боюсь, что протоколы допроса с откровениями Павличенко и другие добытые следствием улики, позволившие Мацкевичу и Божелко требовать ареста Сивакова и Шеймана, не получит даже следователь Чумаченко...

Но, надеюсь, люди, которые допрашивали командира СОБРа, помнят, о чем шел разговор. К тому же есть сведения, что этот допрос снимался на видео. Значит, есть пленка...

Если обвинения в адрес Павличенко действительно были сфальсифицированы, значит, председателя КГБ должны были не просто наказать, а привлечь к уголовной ответственности за должностные преступления и преступления против правосудия, и не его одного. Но Лукашенко отправил Мацкевича работать послом в другую страну...

**— Павличенко сидел в СИЗО КГБ. Может, Вам известно, кто тогда был начальником этого учреждения?**

— Сергей Иванович Стец. Он умер. Говорят, сердечный приступ...

## *Олег АЛКАЕВ:*

# «Решение об аресте комбрига принимали три трезвых человека»

*На наш взгляд, нет смысла полностью давать стенограмму шестичасового разговора полковника Алкаева с Ириной Красовской и Гарри Погоняйло. Многое, о чем говорит Алкаев, уже звучало в "Народной воле".*

*В своих откровениях Олег Леонидович рассказывает про двух высокопоставленных чиновников — министра внутренних дел Владимира Наумова и заместителя госсекретаря Совета безопасности Михаила Удовикова.*



Например, со слов Алкаева выходит, что Владимир Наумов с самого начала был в курсе едва ли не всех подробностей исчезновений известных людей. И, если верить бывшему начальнику СИЗО, только благодаря нынешнему министру внутренних дел были написаны скандально известные рапорты Лопатика и Алкаева под грифом **"Сов.секретно"**.

***"Мы писали рапорты на имя Наумова,*** — говорит Олег Леонидович. — ***Но вы же понимаете, что это вещи, которые без предварительной договоренности не делаются".***

На вопрос Ирины Красовской, почему же тогда глава государства до сих пор держит Наумова в кресле министра, Алкаев ответил так: ***"Два года Наумов был начальником службы безопасности президента и, может быть, знает о более опасных вещах, чем эти убийства. Он слишком много знает, поэтому его нельзя отпускать...***

***В свое время Наумов, наверное, не понимал, что расследование громких дел может обернуться против Батьки...***

***И Шейман сегодня понимает, что Наумов — серьезный носитель информации".***

Олег Алкаев, как и многие, утверждает, что информацией об исчезновениях известных общественных и политических деятелей владеет немалый круг людей. ***"Чергинец, Лопатик, Удовиков, Наумов — все трусы. Их надо с 8 Марта поздравлять!"*** — восклицает бывший начальник СИЗО №1 *(Прямо скажем, неудачная метафора. Одной фразой полковник умудрился оскорбить сразу всех женщин!* — **М.К.**) Хотя пару лет назад, якобы сопоставив даты выдачи "расстрельного" пистолета и исчезновений Захаренко, Гончара и Красовского, Алкаев обратился за помощью к одному из тех, кого сегодня называет трусом.

***"Я говорю Наумову: находят тело, в нем пулю и через два часа меня арестовывают,*** — говорит Олег Леонидович. — ***Оружие хранится только у меня лично. Ну кто мне поверит? Все подтвердят, найдут пару свидетелей, еще моих подкупят*** *(скорее всего речь идет о людях, входящих в состав спецгруппы по исполнению смертных приговоров.* — **М.К.**)..."

По словам Алкаева, в ответ Наумов признался, что когда-то сам чуть не вляпался в подобную историю. Однажды Владимир Наумов получил пять автоматов, из которых, как позже выяснилось, десять лет назад были расстреляны таможенники на литовско-белорусской границе. ***"Сам сидел бы,*** — сказал Наумов. — ***Хорошо, что справки нашел..."***

Алкаев говорит, что 22 ноября 2000 года Владимир Наумов приходил в СИЗО побеседовать с **Валерием Игнатовичем.** Игнатовича принесли в медкабинет на носилках. О чем с ним говорил Наумов, Олег Леонидович якобы не слышал: ***"Я из деликатности вышел"***. Зато он помнит, что, прощаясь с Игнатовичем, Наумов произнес: ***"А ты все-таки подумай и скажи, где закопан Завадский"***.

В этот же день у одного из сотрудников СИЗО был день рождения. Наумову предложили выпить бокал шампанского, однако он отказался, сославшись на важную работу. ***"Мы только чай у меня в кабинете попили,*** — вспоминает Алкаев. — ***Он сказал, что завтра едут арестовывать Павличенко".***

***— Может, помочь?*** — поинтересовался Алкаев.

***— Да мы сами справимся,*** — отказался министр.

Алкаев констатирует, что в тот день ***"решение об аресте комбрига принимали три абсолютно трезвых человека"*** — Наумов, Божелко и Мацкевич.

В последующие дни, по Алкаеву, события развивались так.

***"Наумов позвонил мне и спросил: "Ты новости слушал? Включи телевизор".*** В новостях читали информацию об освобождении от занимаемых должностей Шеймана, Божелко и Мацкевича. Алкаев решил, что теперь точно виновные в исчезновениях будут наказаны.

Но 24 ноября Шеймана назначили генеральным прокурором. После его назначения к Алкаеву пришел руководитель оперативно-следственной группы прокуратуры Беларуси **Иван Бранчель** с пистолетом и книгой регистрации выдачи "расстрельного" пистолета: ***"Мы тебя не видели, ничего не знаем..."***

***"28 ноября я звоню Наумову,*** — рассказывает Алкаев. — ***Он говорит: мол, все в порядке, я сказал тебя не трогать.***

***Просчитался Наумов... Он думал, что Лукашенко отдаст Шеймана, а потом понял, что они с ним повязаны..."***

По словам Алкаева, видеокассета с записью убийств Захаренко, Гончара и Красовского все-таки существует. И он предполагает, что некоторые сотрудники правоохранительных органов успели ее размножить.

Бывший начальник СИЗО утверждает, что сам он не видел этой кассеты. Однако говорит, что на ней есть кадры, на которых ***"Юрий Захаренко с отрубленными кистями рук. Об этом мне буквально на следующий день после допроса Павличенко рассказал знакомый председатель колхоза, который вхож во многие высокие кабинеты"***, — уточняет полковник. (*Мы долго думали, печатать ли эту жуткую цитату... А потом решили: Алкаев об этом говорит, ссылаясь на какого-то председателя колхоза. На первый взгляд неубедительно. Откуда простой белорусский председатель колхоза может владеть такой информацией? Хотя, с другой стороны, если все это соответствует действительности, может, следствие разыщет этого председателя?* — **Ред.**)

Через некоторое время Алкаев снова позвонил Наумову: ***"Я обнаружил за собой "хвост". И, хотя никакой вины не чувствовал, попросил министра объяснить, почему.***

***Мне кажется, тогда Наумов даже не знал, что у Шеймана есть своя "наружка". Поэтому и сказал мне: "Я сам не знаю, ты разберись".***

***"Я их просто поубиваю, а потом вы будете разбираться, Владимир Владимирович",*** — пригрозил Алкаев.

Некоторое время спустя Олег Алкаев попробовал поговорить о "громких делах" с нынешним заместителем госсекретаря Совета безопасности **Михаилом Удовиковым.** ***"Я рассказал ему все, как офицер офицеру. Он мне предложил: "Уничтожь пистолет, я подпишу любой акт".***

***— А пулю в гильзотеке?*** — спросил Алкаев.

***— И ее уничтожь,*** — посоветовал Михаил Дмитриевич.

***"Я отказался",*** — произнес экс-начальник СИЗО.

***"Версия о том, что я якобы сам всех поубивал, а потом уехал за границу, могла родиться только в недрах КГБ",*** — уверяет Алкаев.

**P.S. Видеозапись беседы с Олегом Алкаевым находится у Гарри Погоняйло. При желании заинтересованные сотрудники правоохранительных структур могут с ней ознакомиться.**

**Марина КОКТЫШ.**

# Дзе ты, наш Каштуніца?

## *Працяг размовы за "круглым сталом" наконт склікання Усебеларускага сходу інтэлігенцыі*

*(Заканчэнне. Пачатак у №9 б.г.)*

Нагадаю, што Каштуніца — вядомы дзеяч Югаславіі. Аб'яднаўшыся вакол яго, дэмакратычныя сілы гэтай краіны дамагліся перамогі на выбарах. А вось нашы апазіцыянеры ніяк не могуць дамовіцца аб сумесных дзеяннях, вызначыцца з лідэрам. Чаму? І ці дапаможа ім у гэтым інтэлігенцыя? Удзельнікі "круглага стала" шукалі адказ і на такія пытанні.

**Вольга ІПАТАВА, пісьменніца:**

— Яна пачала здалёк. Нагадала цікавы факт. У 1907 годзе Якуб Колас і яшчэ 27 настаўнікаў ладзілі пісьменніцкі з'езд. Іх, вядома, звольнілі з працы. Але на іх месца другія настаўнікі не пайшлі. Гэта лічылася амаральным.

На жаль, у наш час не бачна такой высокай маральнасці. Многія прадстаўнікі інтэлігенцыі ахвотна прыслугоўваюць уладзе. У іх нават не ўзнікае думкі, што многія патрабаванні чыноўнікаў варта аспрэчваць.

Інтэлігенцыя страціла сваю ролю дарадчыка ўлады і правадыра нацыі. Яе выхоўвалі ў савецкія часы быць прывадным пасам партыі і яна адчувае сябе ім. Гэта самае жахлівае.

*Рэпліка*

Хіба можа такая інтэлігенцыя вылучыць са сваіх радоў лідэра? Ды і ці патрэбен ён ёй?

**Аляксей КАРОЛЬ, гісторык і палітолаг:**

— У мяне вялікае сумненне, што трэба шукаць нейкага нацыянальнага лідэра. Ён з'явіцца тады, калі ўзнікнуць адпаведныя ўмовы. А штучна ствараць, казаць, што вось ты ім будзеш, гэта няправільна. Павінна быць аб'яднальная ідэя. Слабасць беларускай эліты ў тым, што яна пазбаўлена яе.

*Рэпліка*

Ідэю не выставіш кандыдатам у прэзідэнты...

**Аляксей КАРОЛЬ:**

— Вылучэнне лідэра звычайна ідзе ад палітычных сіл, эліт, праз структурызацыю ў грамадстве. Гэта ў нас адбылося. Выбары абавязкова выявяць лідэра.

**Уладзімір КОЛАС, кіраўнік Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа:**

— Апазіцыяй допушчана на мінулых прэзідэнцкіх выбарах нямала сур'ёзных пралікаў і памылак. У нармальнай краіне кіраўнікі партый пайшлі б у адстаўку, а не прэтэндавалі б пасля гэтага на лідэра аб'яднаных дэмакратычных сіл.

Задача нашага сходу ў тым, каб дапамагчы пераадолець тыя памылкі, паспрыяць кансалідацыі ўсіх прагрэсіўных сіл.

**Вольга ІПАТАВА:**

— Лідэрам партый варта думаць не пра тое, што гэта "дасць мне", а што яно дасць краіне.

**Уладзімір КОЛАС:**

— Мала назваца дэмакратам, трэба ўмець дамагацца кансалідацыі, прыслухоўвацца да апанента, спрабаваць зразумець яго. Толькі так можна нешта рабіць сумесна.

**Аляксей МАРАЧКІН, дацэнт, сябра Беларускага саюза мастакоў:**

— Калі былы дырэктар сярэдняга саўгаса ўпіхнуўся ва ўладу, то я мяркую, што любы сумленны пісьменнік, мастак, дырэктар школы абсалютна можа стаць прэзідэнтам. Мяне дзівіць тэзіс, што нібыта Лукашэнку няма альтэрнатывы. І ён пастаянна ўбіваецца ў галовы і свядомасць нашых людзей.

Лічу, варта як мага хутчэй вызначыцца з лідэрам і пачынаць яго раскрутку. Інакш дачакаемся, што нам дадуць кандыдата ў прэзідэнты з Масквы ці яшчэ адкуль.

*Рэпліка*

Можаце назваць прозвішча чалавека, які мог бы стаць нашым Каштуніцай?

**Уладзімір КОЛАС:**

— Гэта не задача сходу. Яго задача — даць магчымасць знайсці рэчы, якія аб'ядноўваюць як мага болей людзей Беларусі, стварыць нейкую арганізацыю, якая дасць магчымасць інтэлігенцыі кансалідавана працаваць. Такая праца паспрыяе выяўленню лідэраў.

*Рэпліка*

Ходзяць чуткі, што Масква ўважліва сачыла за беларускай апазіцыяй перад прэзідэнцкімі выбарамі, чакала, калі кандыдаты-дэмакраты дамовяцца, хто з іх стане галоўным апанентам Лукашэнкі. Пачакаўшы месяц, Крэмль махнуў на іх рукой. Маўляў, калі яны не здольны нават зразумець важнасць аб'яднання намаганняў ды кожны дамагаецца быць толькі першым, то з такімі няма ніякага сэнсу мець справу.

Ці не атрымаецца тое самае зноў? Бо на раскрутку лідэра патрабуюцца гады.

**Аляксей КАРОЛЬ:**

— Я згодзен, што рабіць гэта трэба ўжо зараз. Дэмакратычным сілам варта аб'ядноўвацца ў рух, блок.

**Аляксей МАРАЧКІН:**

— Мець блок, а ў ім — пару дзесяткаў лідэраў, якія маглі б дамовіцца паміж сабой і вылучыць на першую ролю каго трэба ў патрэбны час. Гэтым неабходна заняцца з сённяшняга дня.

***

А што думаеце вы, паважаныя чытачы? Мабыць, у вас на прыкмеце ёсць чалавек, здольны вывесці краіну з крызісу. Тады падкажыце...

А што думаюць удзельнікі маючага адбыцца Усебеларускага сходу інтэлігенцыі? Ваша меркаванне, паважаныя інжынеры, настаўнікі, урачы, пісьменнікі, філосафы, мастакі, канструктары, кіраўнікі партый, рухаў, прафсаюзаў... "Народная воля" гатова прадаставіць свае старонкі для цікавых, канструктыўных ідэй і прапаноў.

**Іван МАКАЛОВІЧ.**



*Вось такія лімоны вагой ад 550 да 650 грамаў вырасціў у сябе ў кватэры віцяблянін, метролаг тэлевізійнага завода Мікалай Сяргееў.*

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

# У Беларусі пачалася распрацоўка новага нафтавага радовішча

*Як паведаміў БелаПАН галоўны геолаг прадпрыемства "Белгеалогія" Яраслаў Грыбік, зараз на свідравіне ў Калінкавіцкім раёне ідзе праца па падборы неабходных параметраў выкарыстання свідравіны і ўводу яе ў пробную эксплуатацыю.*

На свідравіне глыбінёй 3500 метраў быў атрыманы прамысловы прыток нафты. Паводле папярэдніх ацэнак, запасы нафты новага радовішча складаюць каля 500 тысяч тон. Само радовішча адкрыта каля 10 гадоў таму.

Я.Грыбік лічыць, што прамысловая эксплуатацыя новай свідравіны мае важнае значэнне для падтрымання дасягнутага Беларуссю ўзроўню здабычы ўласнай нафты ў 1 мільён 800 тысяч тон. Выкарыстоўваючы ўласныя свідравіны, у тым ліку і новыя, можна забяспечыць краіну "хаця б на 1/5 частку ад патрэбнай рэспубліцы нафты", сказаў спецыяліст.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

# Выпусцілі самазвал новай мадэлі

Мінскі завод колавых цягачоў выпусціў вопытна-прамысловую партыю новых самазвалаў мадэлі МЗКЦ-652511.

Самазвал прызначаны для патрэб нафта- і газаперапрацоўкі, не мае аналагаў на тэрыторыі СНД. Грузапад'ёмнасць поўнапрываднога трохвосевага самазвала складае 21 тону. Пры ўстойлівым попыце на новую прадукцыю завод можа выпускаць да 300 самазвалаў МЗКЦ-652511 у год.

У цяперашні час завод удзельнічае ў тэндэры на пастаўку новых самазвалаў у Расію. Калі МЗКЦ не выйграе тэндэр, то самазвалы новай мадэлі, выпрабленыя ў 2003 годзе, будуць поўнасцю рэалізаваны на расійскім рынку.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

# Біятлон: мужчынская зборная Беларусі на чацвёртым месцы

Чацвёртае месца заняла мужчынская зборная Беларусі па біятлоне ў эстафеце 4 па 6 кіламетраў на пятым этапе Кубка свету ў нямецкім горадзе Рупольдынг.

Каманда ў складзе Аляксея Айдарава, Уладзіміра Драчова, Рустама Валіуліна і Алега Рыжанкова на 51,3 секунды адстала ад пераможцы — зборнай Францыі, якая адолела дыстанцыю за 1 гадзіну 26 хвілін 16,9 секунды. На другім месцы біятланісты Германіі, на трэцім — Нарвегіі.

У агульным заліку Кубка свету беларуская мужчынская эстафетная чацвёрка займае трэцяе месца пасля Расіі і Францыі. У сёлетнім сезоне беларусы займалі ў гонках першае і другое месцы.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

